

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

№ 3 1935

Андрэй Александровіч

# Паводка

*(ПРЫГОДЫ ХЛОПЧЫКА СЫМОНА)*



Рэчка бераг свой ламала
І навалай гнала шквал.
Вал за валам бушавала,
Свой спраўляла карнавал.

На бурлівую паводку
Паглядзець прыбег Сымон
Стаў на крыгу, ўбачыў лодку,—
Лодку ўзяць надумаў ён.

Хвалі крыгу адкалолі,
Вецер крыгу закруціў...
Уцячы Сымон не здолеў,
І на крызе ўніз паплыў.

Не сціхаў шалёны рокат,
Крыгу нёс вадаварот.
А ляцеў—і не высока—
Лёгкакрылы самалёт.

Бачыць лётчык—там унізе
Нехта шапкаю трасе,
Просіць помачы на крызе,
А вада яго нясе...

Апусціўся ніжай лётчык,
Кінуў шнур яму на лёд.
Абкруціўся шнурам хлопчык
І папоўз у самалёт.

Лётчык зноў падняўся ўгору,
І Сымон вясёлым стаў.
Першы раз свой родны горад
З самалёта разглядаў.

З вышыні Сымон, вядома,
Свой пазнаў высокі дом.
На страсе такога дома
Ёсць у нас аэрадром.

Самалёт зрабіў пасадку
І Сымонка, тут як тут,
Са страхі саскочыў—гладка
Распусціўшы парашут.

Ён здаволены, а ўсёткі,
Пройдзе нават многа год—
Не забудзе ён паводкі,
Будзе помніць ледаход!



ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКОМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДБВ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
САКАВІК 1935 № 3



# Падарунак

*Васіль Каваль*
*Малюнкі Г. Ізмайлава*

I

Раніцай пагранічнікі заўважылі, што хлопчык вядзе на павадку карову. Хлопчык вёў карову па самай граніцы.

Двое пагранічнікаў пайшлі яму насустрач.

Пастушок быў босы, у падранай шэрай світцы, падпяразаны вяровачкай. Рабая карова ўпіралася, не хацела ісці і ўсё пазірала на стада, якое пасвілася на ўскраі лесу.

Хлопчык злаваўся і плакаў, а калі заўважыў пагранічнікаў — спалохаўся.

— Дзядзечка, не чапайце мяне,—дрыжачым голасам папрасіў хлопчык.— Я тут нісколечкі не вінаваты. Гэта вінавата карова...

— Ну, добра, — сказаў адзін пагранічнік. — Пойдзем да начальніка заставы. Цябе як завуць?

Хлопчык ужо смялей адказаў:

— Мяне завуць — Сцёпка, а майго бацьку — Пятрусь, а маці — Ганна. Вунь там, на горцы, і наша хата стаіць...

— Ну, добра,—сказаў другі пагранічнік.—Давай я памагу табе карову весці. Бач ты, як яна ўпіраецца.

— Ніяк не хоча ісці. Усё да стада заварачвае... Не буду я больш пасвіць яе,—паскардзіўся Сцёпка.

Пагранічнік узяў рукой за повад. Карова не вырывалася і ішла роўна. У пагранічніка былі дужыя рукі.

— Дзядзечка, а вы мяне адпусціце,—папрасіў Сцёпка, калі яны падыходзілі да заставы.—А то мамка будзе плакаць.



— Добра! — сказаў адзін пагранічнік. — Толькі мы цябе не можам адпусціць. Цябе адпусціць наш начальнік.

А на ганку дома ўжо стаяў строгі вусаты дзядзька ў рубашцы з зялёнымі пятліцамі. І пагранічнікі перад ім узялі пад казырок і сказалі:

— Таварыш начальнік!—і яшчэ сказалі, што Сцёпка з таго боку граніцы.

II

Начальнік і Сцёпка ўвашлі ў светлы, сонечны пакой.

— Сядай!—сказаў Сцёпку начальнік і паказаў на крэсла каля стала.

— Дзядзечка, адпусціце мяне. Я-ж ніскалечкі не вінават... Сцёпка заморгаў вачыма і ўжо хацеў расплакацца, але суровы начальнік сказаў:

— Такі вялікі і хоча плакаць: ух, як сорамна!—І нават паківаў галавою.

Сцёпка асмеліўся і стаў расказваць, як адбылося здарэнне...

Раніцай маці паслала яго пасвіць карову. Сцёпка пасвіў і трымаў яе на повадзе. А тады адлучыўся на адну хвілінку, каб выразаць дудачку з лазы.

— М-у-у!—зарыкалі каровы ў стадзе на гэтым баку.

— М-уу!—адгукнулася ім сцёпкава карова і кінулася да стада. А Сцёпка следам за ёю—праз рэчку, праз брод, і ўсё клікаў:

— Рабая, назад. Назад! Вярніся...

Карова не слухалася. Сцёпка бег услед, яго ніхто не заўважыў і сам ён не заўважыў, як апынуўся на гэтым баку. А з таго боку яму пагражаў вайсковы з бліскучымі пагонамі.

— Дзядзечка, апусціце, а то мама мяне чакае,—зноў папрасіў Сцёпка, калі скончыў расказваць.

— Скора адпушчу. Вось толькі пазваню ў кардон.

Сцёпку стала весялей. Строгі начальнік быў не такі ўжо строгі і гаварыў з ім ветліва. Зараз ён званіў некуды па тэлефону і ўспамінаў і Сцёпку, і яго рабую карову...

Сцёпка падняў галаву і толькі цяпер агледзеў светлы, чысты пакой. І ён здзівіўся і задрыжаў.

На сцяне ён убачыў вялікі партрэт чалавека, якога ведаюць усе, партрэт, які ёсць у кожнай школе і ў кожнай хаце ў нашай краіне. Гэты чалавек усміхаўся ласкава прыжмуранымі вачыма. І Сцёпку здалося, што гэта ён на яго глядзіць і ўсміхаецца...

— Гэта-ж Ле-ні-н!—голасна і здзіўлена прамовіў Сцёпка.

І ты пра яго таксама ведаеш? — запытаў начальнік.—І ты пра яго таксама чуў?

— Ведаю,—шэптам, таемна сказаў Сцёпка. — У нас таксама быў яго партрэт. Мой бацька гаварыў, што ён быў вельмі добры да такіх як мы.

Бацька хаваў партрэт на дне куфэрка. І загорнуты ён быў у белую папперку. Калі бацька вымаў яго, дык мы ўвечары, каб ніхто не бачыў, глядзелі на яго. А тады бацька зноў хаваў на дно куфэрка... Адзін раз прыйшлі да нас у хату паліцыянты і ўзялі бацьку, і ўзялі партрэт. Цяпер у мяне бацькі няма. Ён недзе ў горадзе ў турме...

І Сцёпка расказаў пра бацьку, пра маці і пра сябе.

А строгі вусаты дзядзька моўчкі слухаў і ківаў галавою.

III

Пад вечар Сцёпку адправілі дахаты.

— Бывай здароў, Сцёпка!—сказаў яму на дарогу начальнік.

— Бывайце здаровы!—сказаў ён пагранічнікам.

— Дзядзечка,—успомніўшы, папрасіў Сцёпка,—дайце мне адзін партрэт Леніна. У вас многа партрэтаў.—Бацька казаў, што ён бедным прыносіць шчасце, а паны яго баяцца і дрыжаць...

— Нельга...—адказаў начальнік.

— „Чаму ў вас можна, а ў нас — не“, — здзівіўся Сцёпка і яму стала трошкі крыўдна.

— Адбяруць у цябе,— растлумачыў начальнік. — Вырасцеш вялікім — будзеш сам ведаць.

Сцёпка ўздыхнуў і ўспомніў пра бацьку.

Пагранічнікі праводзілі Сцёпку, а на тым баку яго з каровай ужо сустракала маці.

— А я ўвесь дзень чакала. Думала, хоць-бы вярнуўся як-небудзь.

— Мама,—весела сказаў Сцёпка,—мне там зусім добра было. Мне там і есці давалі. Я там гуляў з дзецьмі ў садзе, а наша карова пасвілася...

— Ну, добра, сынок! Ужо вечар. Ідзі кладзіся спаць, а то заўтра трэба рана ўставаць.





Маці пайшла даіць карову, а Сцёпка залез на палаці, накрыўся сваёй світкаю і скора заснуў.

Пасля перажытнага дня, Сцёпку прысніўся дзіўны сон. Нібы зноў прышоў Сцёпка да вусатага начальніка і сказаў:

— Добры дзень!

— Добры дзень, Сцёпка! Што ты скажаш? Чаго ты хочаш?

І Сцёпка сказаў начальніку:

— У вас ёсць партрэт Леніна, а ў нас няма...

І тады нібы здымае начальнік са сцяны партрэт Леніна і аддае Сцёпку:

— Вазьмі. Хай будзе табе ў падарунак. З ім ты вырасцеш і нікога не будзеш баяцца. Толькі жыві так, як вучыў ён, Ленін...

Сцёпка бярэ падарунак. Нясе яго перад сабою. Потым ён вешае партрэт у сваёй хаце на сцяне. І раптам іхняя маленькая цёмная хатка становіцца светлай. Са сцяны прыветна глядзіць Ленін і нібы кажа Сцёпку:

— Расці вялікім. Вучыся, Сцёпка, жыць.

І нібы бацька не ў турме, а дома. Сабраліся ў іхнюю хату людзі. Кругом па-святочнаму, светла, радасна.

— Сцёпка! Уставай, сынок!—будзіць нахіленая над ім маці.

„Зноў трэба пасвіць карову“,—думае Сцёпка і ай як не хочацца ўставаць. Але нічога не зробіш. Трэба ўставаць.

А ў хаце сыра і цёмна. На вуліцы ідзе дробны халодны дождж.

Сцёпка мыецца, апранае світку. Ён бярэ ў кішэнь акрайчык чэрстваго хлеба, потым выводзіць карову і ў дождж вядзе яе пасвіць.





# НЕ ВЫТРЫВАЎ

*Народная казка*
*Апрацоўка Я. Коласа*

Адзін пан вельмі любіў слухаць казкі. Многа праслухаў ён гэтых казак. Урэшце захацелася яму пачуць такую казку, у якой не было-б ніводнага слова праўды. Знайшоўся такі казачнік. І кажа яму пан:

— Вось талерка золата. Калі раскажаш мне такую казку, каб не было ў ёй ні слова праўды і каб я сказаў табе „лжэш", дык тады аддам табе гэту талерку золата.

Зірнуў чалавек на талерку—так і зіхціць на ёй золата!

І ён пачаў:

— Чаго, панок, на свеце не бывае. Вось са мною такая прыгода здарылася. Было мне гадоў пятнаццаць, але яшчэ на свет не радзіўся. Наняўся я да аднаго гаспадара пчол пасвіць—пяцьдзесят раёў пчол. Рана і вечарам я павінен быў пералічыць іх, а вечарам іх трэба было і падаіць і пазаганяць у вуллі.

— Свет вялік, можа быць і праўда,—кажа пан.

Глянуў казачнік на золата—блішчыць, на яго ліха!

— Раз выпусціў я пчол на пашу. Вярнуліся яны дамоў—дванаццаці пчол

няма. Дзе-ж бы яны падзеліся? Можа ў балоце загразлі... Кінуўся іх шукаць. Я туды, я сюды—няма. Аж бачу—адзінаццаць пчол ляціць, параненыя, акрываўленыя. А дванаццатай няма. Ох, ты гора маё! Я далей.

— Го-го-го!—крычу.

Гу-у-у-м—азвалася яна.

Зірк за рэчку — аж там стада ваўкоў апанавалі маю пчалу і душаць. А яна адбіваецца, а яна не даецца. Я гэта давай бегчы шпарчэй на падмогу. Да рэчкі дабег — перавозу няма! Спазьнюся — задушаць яе ваўкі. Схваціў гэта я сам сябе за чупрыну, размахаў, разгойдаў—гопта-ля-ля! Як штурхануў, так і перакінуўся на той бок ракі!

— Можа быць,—кажа пан.

— Але з разгону як гопнуў я аб зямлю, так па пояс і засеў! Я туды, сюды—не вылезу. Я так, я сяк—не бярэ. Без рыдлёўкі не зробіш нічога. Кінуўся я, як мага, дадому, схапіў рыдлёўку ды назад. Бягу гэта я, аж чую—у дупле печаныя дзятлы пішчаць. І так прынадна пахнуць! Палез я ў дупло. Лезу галавою—не ўлез, рукою лезу — не ўлез; лезу нагою—дарма! Калі-ж кінуўся ўсім целам — улез! Паеў я тых дзятлоў, назад лезу. Лезу галавою—не вылезу, лезу рукою—не вылезу і нагою лезу — не вылезу. Кінуўся ўсім целам—няма рады. Без сякеры нічога не будзе. Зноў дадому бягу, хватаю сякеру, лезу ў дупло, высякаю дзірку—вылажу. Бягу за рэчку, адкопваю сябе з зямлі і кідаюся пчале памагаць.

— Свет вялік, можа быць і праўда,—кажа пан.

— Праўда ці няпраўда, але прыбег я да пчалы, адагнаў ваўкоў. Бачу— не жыць маёй пчале. Я гэта, нядоўга думаючы, шась яе нажом! Перарэзаў ёй горла. А крыві, крыві,—аж рэчка зачырванелася. Абяліў я пчалу і прывёз мяса дадому: дванаццаць кадзяй мяса наклаў!..

— Свет вялік, можа быць і праўда.

— Можа праўда, а можа і няпраўда. Тут я ўспомніў, што косці засталіся на пожні. Думаю сабе—лаяць будуць людзі, што заграмазьдзіў касьцямі больш дзесяціны сенажаці. Пабягу ды скіну іх у раку. Прыбег. Стаў падымаць хрыбет з рэбрамі. Падняў я яго, потым як штурхану ад сябе!.. Я думаў, што ўпадзе ў раку, а ён адным канцом стаіць на зямлі, а другім у неба ўпёрся.

— Свет вялік, можа быць і праўда.

— Ну што-ж? Праўда, дык праўда. Палез я па гэтым хрыбце на неба. Як лезьці, дык лезьці і ўзлез. Бачу—у адной хаце пірушка, святыя гуляюць: п'юць гарэлку, віно, сала поўныя місы нарэзалі, песні такія непадобныя пяюць. Ну, думаю сабе, з п'янымі, чалавеча, не займайся, а то яшчэ бакі намнуць. Іду далей. У другой хаце святы Мікола набраўся гарэлкі, як сцелька, ляжыць пад лаваю і храпе, як пшаніцу прадаўшы.

— Можа і праўда.



*... Стада ваўкоў апанавалі маю пчалу і душаць.*

— Праўда, то праўда, але віламі на вадзе пісана. Каля яго ляжыць шапачка, сама залатая, з дарагімі каменнямі. Я шапачку — за пазуху ды і назад. Аж тут святы Мікола прачнуўся, пачаў бушаваць, свае шапкі шукаць. Падняўся шум, крык.

— Гэта Ялісей маю шапку забраў, бо ў яго па лысіне мухі поўзаюць,— крычыць Мікола.

— Ну, думаю, калі зловяць, кепска будзе. А тут аніяк не знайду таго месца, дзе хрыбет стаяў. Бачу—пілавіны ляжаць. Давай з пілавін вяроўку віць. Звіў доўгую вяроўку. Завязаў адзін канец яе і стаў спускацца з неба па вяроўцы. Спусціўся да самага канца вяроўкі, а зямлі яшчэ няма. Што тут рабіць? Я гэта вазьму ды адрэжу зверху кусок вяроўкі, а знізу надтачу і спускаюся далей.

— Свет вялік, можа і праўда.

— Але, праўда. Стаў гэта я на зямлі. Бачу — не наша зямля. Агляну́ўся — пекла! Іду далей. Аж бачу — панскі бацька-нябожчык, абарваны, босы, такі галадранец, аж глядзець шкода. Стаіць, бедненькі, з пугаю, свіней пасе...

— Лжэш, хам!—крыкнуў пан.

А казачнік—цап за талерку з золатам ды за дзверы.

* * *

# ЦІ ВЕДАЕШ ТЫ?

1. Дзе ў каровы вушы—перад рагамі, за рагамі, вышэй альбо ніжэй рог?



2. Ці ёсць у рыб вушы?

3. Як злазіць кошка з дрэва—галавой уверх або ўніз?

4. З якой нагі пачынае бегчы конь—з пярэдняй ці задняй?



5. На якія ногі апіраецца конь, калі ўстае — на пярэднія ці заднія? А карова? А авечка? А другія жывёлы?

6. Якога дыму болей выпускае паравоз на хаду — белага ці чорнага? А ў час стаянкі?

7. Калі ў ката бывае круглы зрачок? А калі—зусім вузкі?

8. Колькі ў птушкі на назе пальцаў?

9. Чым харчуецца жаба?



Н. А. НЕКРАСАЎ




*Малюнкі В. Тіхановіча*



Разгаварыўся дзядуля Мазай:
„Дзеткі,—сказаў ён,—лясісты наш край
Меў-бы у многа раз больш дзічыны,
Каб людзі у сеткі яе не лавілі,
Альбо сілкамі яе не давілі;
Хоць-бы зайцы вось,—як гінуць яны!
Толькі вясною паводка нахлыне,
І без таго іх немала загіне,—
Тут яшчэ раптам прыскочуць дзядзькі,
Б'юць іх каламі і топяць, і ловяць.
Дзе ў іх сумленне? Я неяк па дровы
Ехаў у чоўне—іх многа з ракі
К нам у паводку вясной наганяе,—
Еду, лаўлю іх. Вада прыбывае.
Бачу адзін астравок невялікі—
Шэрых зайцоў на ім пэўна без ліку.
З кожнай хвілінай вада падступала
К бедным звяркам, і пад імі ўжо стала
Меней за сажань зямлі даўжынёй,
Толькі аршын шырынёй.
Тут я пад'ехаў: лапочуць вушамі,
Ўзяў аднаго я, укінуў у човен,
Рэшце скамандваў: скакайце вы самі!
Скокнулі зайчыкі дружна,—нічога!
Толькі што села каманда касая,

Як астравок той прапаў пад вадой:
— „То-та—кажу,—не жартуйце са мной!
Слухайце, зайчыкі, дзеда Мазая!“
Гэтак плывем мы сабе ў цішыні,
Бачу здалёку—аж зайка на пні,
Скурчыўся, бедны, стаіць і трасецца.
„Ладна, скакай—яшчэ знойдзецца месца!“
Толькі пачаў варушыць я вяслом,
Бачу пад кустам трасецца зайчыха—
Гладкая, тоўстая, нібы купчыха!
Ўзяў і яе ды накрыў кажухом—
Вельмі-ж замерзла і ледзьве жыла.
Міма калода ля нас праплыла,
Седзячы, стоячы й лежачы ў рад
Тут ратавалася многа зайчат.
„Шкода мне вас, ды затопіце човен!
Нельга ўзяць, ён і так ужо повен.
Тут я калоду за сук зачапіў
Моцнай вяроўкай, і далей паплыў.
Колькі пацехі было для рэбятак,
Як пракаціў я ля вёскі зайчатак!
„Гляньце, што робіць дзядуля Мазай!“
Добра, дзівіся, ды нас не займай!
Вось і за вёску мы заплылі,
Там мае зайкі зусім ажылі:
Нібы здурнелі—на лапкі ўстаюць,
Човен хістаюць, грабці не даюць.
Бераг убачылі зайкі касыя,
Лес невялічкі, дзе дрэвы густыя.
Ўзяў я пад бераг калоду прыгнаў,
Човен прычаліў—„бывайце“ сказаў.



І на ўвесь дух
Пайшлі зайчаткі.
А я ім: „У-ух!
Жывей, звяраткі!

Наказ вам мой:
Бяжы, хавайся,
Ды, брат, зімой
Не пападайся!
Бо стрэльбай—бух!
І ляжаш... Ууу-х!..“

Мігам зайчаткі мае паскакалі,
Толькі дзве пары у чоўне ляжалі—
Вельмі намоклі, аслаблі. Ў мяшок
Я іх паклаў—і дамоў прывалок.
Дома за ноч мы зайцоў адагрэлі,
Добра паспалі яны і пад'елі.
Вынес я іх у мяшку на лужок,
Выпусціў,—ну і пайшлі-ж у лясок!
„Помніце, зайкі, яшчэ раз параю:
Бойцеся ўзімку вы дзеда Мазая!“
Летам ці ўвесну я іх не страляю
Дрэнная шкура—заяц ліняе.

*Пераклад А. ЯКІМОВІЧА.*






*Янка Маўр*
*Малюнкі А. Волкава.*

Жыў-быў на свеце акцябронак Рома. Нішто сабе хлапчук — не тоўсты і не тонкі, не вельмі ціхі, але і не задзірысты, не надта чысты, ды і не вельмі мурзаты, не ўпарты і не зусім паслухмяны.

Былі і лепшыя за яго, напрыклад, Кіра. Той любіў кніжкі і быў вельмі акуратны. І ніколі не біўся з таварышамі.

Затое былі і горшыя, напрыклад, Яшка, страшэнны задзіра і неахайны.

А Рома быў сярэдні хлопчык. Ён мог-бы быць і лепшым яшчэ, але быў вялікі трус.

Калі ім трапляўся які-небудзь звер, напрыклад, жаба, дык Рома ўцякаў ад яе і крычаў:

— Ай, укусіць!

А калі трапляўся вусаты чарвяк, дык Рома таксама баяўся крануць яго і ўсё пытаўся:

— А ён не ўкусіць?

Вядома, таварышы смяяліся з яго. Ну, які ён акцябронак, калі чарвяка баіцца? Як-жа-ж тады ён будзе ваяваць з буржуямі, калі вырасце? Ды яго і ў Чырвоную армію не возьмуць.

Зоя—дзяўчынка, і то не баялася. Яна нават казала, калі вырасце, абавязкова будзе прасіцца ў Чырвоную армію.

— Цябе не прымуць!—казаў Рома.

— Ды ўжо-ж хутчэй, як цябе!—зняважліва адказвала Зоя.

А потым возьме якую-небудзь трэсачку, суне яе Рому і крыкне:

— Ай, укусіць!

А навокал усе смяюцца.

Крыўдна і сорамна было Рому. Але што ты зробіш, калі ён вельмі баяўся болю? Як загоніць стрэмку якую, дык крычыць так, нібы трапіў пад трамвай.

А калі гэтую стрэмку пачнуць вымаць, тады ўжо зусім бяда: раве, тупае нагамі. А сам дык ніколі не папросіць, каб яе вынялі.

— Ды пацярпі крыху!—прасілі яго.—Затое потым лягчэй будзе.

— Хай сабе будзе, як хоча,—плакаў ён,—абы толькі цяпер не балела.

Ён нават у мячык не гуляў з дзецьмі, бо баяўся, што трапіць яму ў твар—і будзе балець. А пра снежкі і казаць няма чаго.

Як кожнаму чалавеку, Рому таксама здаралася параніць руку нажом або цвікам. З кім гэта не здараецца? Пэўна і з вамі здаралася. Але наўрад ці хто з вас гэтак плакаў, крычаў, ойкаў, енчыў, як Рома.

Як вядома, у такіх выпадках трэба хутчэй змазаць рану ёдам, асабліва калі цвік ці нож былі брудныя, заіржавелыя. Але з Ромам пачыналася новая бяда.

Аднаго разу ў дзіцячым садзе цёця Ліза зрабіла вось якую штуку.

Калі трэба было змазаць Рому руку ёдам, цёця Ліза ўзяла ды мазнула руку вадой, самай звычайнай чыстай халоднай вадой. А Рома не бачыў і думаў, што ёд.

І вось як пачне ён скакаць, трэсці рукою ды енчыць:

— Ой-ой-ой, як пячэ! Ой, кусае! Ай, шчыпле!

А дзеці навокал аж са смеху кладуцца.

— Паглядзі на сваю руку: там ніякага ёду няма!

Паглядзеў Рома на руку — сапраўды няма. І не пячэ, і не кусае, і не шчыпле.

Як-жа-ж сорамна зрабілася Рому! Хоць ты скрозь зямлю праваліся.

Але ўсёроўна, сорамна ці не сорамна, а калі сапраўды ёд, то баліць, і ад стрэмкі вельмі баліць, і калі стукнешся каленам аб камень — таксама баліць. І ўсюды баліць. І навошта такая пакута чалавеку?

Дрэву добра—яму не баліць. А чалавеку жыць горш, як дрэву.

Эх, каб можна было так зрабіць, каб не балела! Вось было-б шчасце.

Рома тады здзівіў-бы ўвесь свет. Усе-б яму зайздросцілі, усе хацелі-б быць такімі, як ён. А ён нічога не баяўся-б і быў-бы самым вялікім героем у свеце.

А пакуль што, замест усіх гэтых геройстваў, Рому прыходзілася цярпець. Ды яшчэ як!

У яго забалела ў вуху. А гэты боль горшы за ўсё. Тут не толькі акцябронак, а нават і самы вялікі дзядзька заскача ды заплача.

У гэтым выпадку ўжо ніхто не смяяўся з Рома, а наадварот, — усе шкадавалі і спачувалі. Але карысці ад гэтага было мала — вуха ўсёроўна страшэнна балела.

Хвароба, відаць, была сур'ёзная, бо прышлося весці Рому да самага старога і разумнага прафесара.

Прафесар гэты меў, мусіць, больш за сто гадоў і ад старасці зрабіўся такім маленькім, што Рому здавалася, нібы яны абодва роўныя.

Але гэта яму толькі так здавалася. Адна галава ў прафесара была такая, як сам Рома, каб адняць у яго ногі, рукі і галаву.

У прафесара былі доўгія сівыя валасы і барада, а на носе чорныя акуляры, такія вялікія, што Рома пэўна пралез-бы праз іх, каб вынуць шкло.

У пакоі ў гэтага прафесара былі ўсялякія бліскучыя цацкі ці машыны, а ў шафах шмат усялякіх бутэлек і банак. Адны з іх былі не меншыя за Рому, а другія, як гарошыны.

Але сам прафесар быў вельмі добры і ласкавы. Ён так ветліва пазіраў праз свае вялізныя акуляры, што Рому здавалася, нібы ад аднаго гэтага пагляду вуха не так баліць.

Вось у якога прафесара лячыўся Рома!

Тыдні са тры хадзіў Рома да прафесара лячыцца, а калі вылячыўся, дык усе пачалі заўважаць, што ён зрабіўся нейкі не такі, як быў раней.

Гэта адразу выявілася на экскурсіі, калі дзецям трапіўся жук, вялізны-вялізны, чорны, рагаты, кусліві.

Нават Зоя спалохалася яго, а Рома важна падышоў, узяў яго ў рукі, пакруціў і кінуў. А калі скокнула на іх раззлаваная жаба, дык нават Кіра шарахнуўся ў бок, а Рома хоць-бы што.

— Эх, вы, трусы!—сказаў ён зняважліва.

Таварышы глядзелі на яго і толькі дзіву даваліся. Што гэта такое з ім зрабілася? Адкуль такая смеласць?

Але гэта быў толькі пачатак.

Праз некаторы час у ляску яны ўбачылі ваўка. Шэры звер стаяў, высунуўшы язык, і грозна пазіраў на дзяцей.

— Воўк!—крыкнуў малы Юра, і ўсе кінуліся хто куды.

А Рома ўзяў палку ды рынуўся на ваўка. Той, вядома, уцёк.

Дзеці былі ўжо каля цёці Лізы і са страхам расказвалі, як бачылі ваўка, як усе кідаліся ўцякаць, а Рома ўзяў палку і адзін пайшоў на звера.

І ўсе з павагай глядзелі на Рому, які ў гэты час, важна задраўшы галаву, падыходзіў да іх.

— Можа гэтага ваўка вы бачылі? — сказала цёця Ліза, глянуўшы ў бок.

Там ішоў чалавек, а побач з ім, махаючы хвастом, круціўся той самы шэры воўк.

— Сабака!—закрычалі дзеці і засмяяліся так гучна, што аж сабака загаўкаў.



— Рома, чаму ты не заб'еш ваўка, крычалі дзеці. — Глядзі, ён круціцца тут!

І пачалі смяяцца з яго так, што нават цёця Ліза стала заступацца за яго.

— Чаго-ж вы смяіцеся?—сказала яна.—Вы-ж самі палічылі сабаку за ваўка і паўцякалі ад яго. А Рома адзін не спалохаўся. З вас трэба смяяцца, а не з яго.

— Я і сапраўднага ваўка не баюся!—горда заявіў Рома.

— Ого, які ты герой!—усміхнулася цёця Ліза.

— Я нічога не баюся—паўтарыў Рома.

Тады ўжо ўсе пачалі зноў смяяцца з яго.

— А вось я вам зараз пакажу!—крыкнуў раззлаваны Рома, азірнуўся, убачыў мурашнік, падбег і палажыў на яго сваю руку.

Мурашкі мігам абляпілі руку і пачалі шчыпаць. А Рома падняў руку, стаіць сабе спакойна і ўсміхаецца.

Тут ужо нават цёця Ліза раззявіла рот ад здзіўлення. А дзеці не толькі адчулі пашану да Ромы, але нават страх.

Якая цярплівасць! Якое геройства!

— Годзе ўжо!—крыкнула цёця Ліза. Як можна столькі цярпець! Досыць!

З таго часу толькі і гутаркі было пра незвычайную цярплівасць і геройства Ромы.

А ён дзівіў свет усё больш і больш.

*(Канец будзе)*

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Мы былі вельмі рады, што нас наведала рэдакцыя нашага любімага журнала. Нас вельмі зацікавіў ваш урок.

Цяпер мы яшчэ з большай ахвотай будзем чытаць „Іскры Ільіча“ і ў школе, і дома.

Мы просім друкаваць больш пра нашых правадыроў, пра жыццё і работу замежных піянераў.

Надрукуйце нам у № 3 пра веснавую прыроду, а ў № 4—пра 1-е Мая.

**АКЦЯБРАТЫ 2-б КЛАСА 14 ШКОЛЫ (Менск)**



# АЎТАМАБІЛЬ

Вялікі шлях развіцця прайшоў цяперашні прыгожы аўтамабіль. Многа продкаў меў ён, і ўсе яны былі непадобны, або малападобны на цяперашнія аўтамабілі.

Даўно ўжо ў людзей з'явілася жаданне прыдумаць такую машыну, якая-б сама ехала.



*Вось такою была першая паравая павозка, зробленая інжынерам Кюньо.*

І вось гадоў трыста таму назад адзін галандскі вучоны Сімон Стэвін задумаўся: „Па моры плаваюць парусныя лодкі, а чаму не зрабіць такую-ж лодку з калёсамі, каб яна магла хадзіць па зямлі“. І Стэвін узяўся за работу.

Доўга працаваў ён. Нарэшце „ветраны аўтамабіль“ быў гатоў. На ім магло ехаць да 30 чалавек. Аднак „аўтамабілем“ гэтым карыстацца нельга было, бо меў ён парусы і хадзіў толькі пры дапамозе ветру. Гэта было нязручна. Бо, скажам, трэба ехаць у адзін бок, а вецер дзьме ў другі. Тады адкладвай паездку, чакай змены ветру. Ды і кіраваць такім „аўтамабілем“ не лёгка, асабліва на паваротах.

Многа гадоў мінула, пакуль на змену „ветраному“ аўтамабілю прышоў паравы. Зрабіў яго французскі інжынер Кюньо ў 1769 г. Гэта была першая паравая павозка, на якой можна было ехаць. Усё-ж і гэты „аўтамабіль“ пражыў нядоўга. Аднойчы, ён так разагнаўся, што зламаў сцяну. Пасля такога здарэння яго здалі ў музей.

Але справа на гэтым не спынілася. На змену Кюньо прышлі другія вынаходцы з лепшаю тэхнікай.

На ўласнікаў аўтамабіляў былі накладзены вялікія падаткі і, акрамя таго, быў выдадзен загад, каб аўтамабілі не палохалі свісткамі коняй, каб хадзілі павальней за чалавека. Да таго-ж было яшчэ загадана, каб наперадзе кожнага аўтамабіля ў 50 метрах ішоў чалавек з чырвоным сцягам і папярэджваў усіх стрэчных-папярэчных пра небяспеку.

Прыдушаныя падаткамі, а таксама няўдачамі, некаторыя з вынаходцаў кінулі гэту справу, а другія ўпарта працавалі над тым, каб палепшыць аўтамабіль.

І вось аднойчы, у 1881 годзе, шмат хто ўбачыў дзіва: па дарозе імчаўся аўтамабіль з нечуванай хуткасцю.

Гэта з'явіўся сапраўдны аўтамабіль, пабудаваны нямецкім механікам Даймлерам. Ён ужо меў не паравы кацёл, а бензінавы матор.

Але і на гэтым аўтамабілі, як і на ранейшых, вельмі трэсла, бо не адразу людзі дадумаліся адзець рызінавыя шыны на колы. Гэта зрабілі пазней.

Прайшло некалькі дзесяткоў год, і цяпер ёсць ужо такія аўтамабілі, што праходзяць у гадзіну па 438 кілометраў. Праўда, ужываюцца яны найбольш на спаборніцтвах.



*У гэтым аўтамабілі быў ужо не паравы кацёл, а бензіновы матор.*

На работу вынаходцаў людзі глядзелі спачатку па-рознаму: адны з боязню, а другія з насмешкай. Але вось паравых аўтамабіляў пачало з'яўляцца больш і сталі яны значна лепшымі за ранейшыя. Тады на барацьбу з імі выступілі ўласнікі конных дыліжансаў (брычак). Уласнікі добра зараблялі на розных перавозках, а тут на табе—ад іх хочуць адабраць гэты лёгкі заработак. Яны выдумлівалі розныя паклёпы на вынаходцаў і іх машыны, збіралі цёмных несвядомых людзей і ламалі машыны, збівалі шафераў.



*Цяпер аўтабус возьме каля сотні пасажыраў ды імчыцца дзесяткі кілометраў у гадзіну.*

А паглядзіце на малюнак—што за трохпавярховыя аўтобусы з'явіліся! Гэта не то што некалі: аднаго чалавека вязе, ды і то ледзве варушыцца. Цяпер аўтобус возьме каля сотні пасажыраў ды імчыцца дзесяткі кілометраў у гадзіну. У гэтым жа аўтобусе і спаць можна і гарачы абед заказаць.

Да рэволюцыі ў Расіі не было сваіх аўтамабіляў—іх прывозілі з-за мяжы. Цяпер Совецкі Саюз мае свае магутныя самыя велізарныя ў свеце, аўтамабільныя заводы. На гэтых заводах вырабляюцца найлепшыя аўтамабілі і аўтобусы.

З кожным годам у нашай краіне павялічваецца лік аўтамабіляў, пракладваецца для іх многа шасейных дарог. Цяпер аўтамабіль не навіна нават у самым далёкім ад горада калгасе.

* * *

# ВАДЗЯНЫ МЛЫН



Такі млын можна лёгка зрабіць самому.

Вазьміце фанеру, выражце 2 круглыя кацёлачкі, а на іх неглыбокія пазы (мал. № 1). Кацёлачкі адзеньце на вось (мал. № 2). Каб яны не скідаліся, замацуйце чым-небудзь (можна ўзяць звычайную шпульку ад нітак, разрэзаць яе і скарыстаць для гэтага). У пазы кацёлачак устаўце фанерныя дошчачкі (мал. № 3). Цяпер астаецца зрабіць станок і ўмацаваць на ім вадзяное кола (мал. № 4). Вось і гатоў млын.

№ 4





№ 3



№ 1

№ 2

# ГРАКІ ПРЫЛЯЦЕЛІ



Пачалася вясна. У палях загулі ручайкі. Рэкі ўзняліся, разарвалі лёд на кавалкі і пагналі яго ўніз з вадою. Растаў апошні снег у лесе.

Удзень горача, прыпякае сонца. Усё ажыло. На ўзгорках паказаліся першыя зялёныя лісточкі і кветкі.

Неба загаманіла птушынымі галасамі. Зацвырыкалі жаваранкі, заспявалі шпакі, у калгасах усюды з'явіліся чароды гракоў. Яны першыя прыляцелі з выраю, з далёкіх цёплых краін.

За імі валам валяць і ўсе другія птушкі. Ляцяць яны тымі-ж дарогамі і ў такім-жа парадку, як і ляцелі іх продкі з году ў год.

Першымі з выраю ляцяць тыя птушкі, што ўвосень паляцелі ад нас апошнімі. Апошнімі—тыя, што паляцелі ад нас першымі. Пазней за ўсіх варочаюцца з выраю самыя яркія і стракатыя птушкі: ім трэба хавацца ў кветках, свежых лістах і траве. На голай зямлі і дрэвах яны вельмі заметныя для ворагаў—драпежных звяроў і птушак.

Трудна ляцець птушкам. Нямала перашкод і бяды прыходзіцца сустракаць у дарозе. Шмат іх гіне ад нечаканых раптоўных халадоў. Нямала трапляе ў лапы драпежнікаў — морскіх арлоў, сокалаў, ястрабаў. Сотні тысяч гінуць адкуль паляўнічых. Драпежнікі цэлымі чародамі збіраюцца ўвесну на пералётных дарогах, каб пажывіцца багатай лёгкай здабычай.

Але нішто не можа спыніць крылатых падарожнікаў, якія спяшаюцца хутчэй да сваіх гнёздаў.

# ВЫПАДАК НА ПАЛЯВАННІ

Ляснік знайшоў бярлогу мядзведзя. Паклікаў на дапамогу паляўнічага. Узялі яны двух сабак, ціханька падышлі да снегавой гурбы, пад якою залёг звер.

Паляўнічы стаў па ўсіх правілах збоку ад гурбы. Выхад з бярлогі бывае заўсёды на ўсход. Выскачыўшы з-пад снегу, звер, звычайна, падаецца на поўдзень. Паляўнічы павінен стаць так, каб можна было страляць мядзведзю ў бок.

Ляснік зайшоў ззаду гурбы і спусціў сабак. Сабакі, счуўшы звера, сталі кідацца на гурбу.

Раптам з снегу высунулася велізарная чорная лапа і ледзьве не ўхапіла аднаго з сабак. Сабака з піскам адскочыў у бок.

Тады звер выскачыў з гурбы, як чорная глыба зямлі. Ён кінуўся не ў бок, як гэтага чакаў паляўнічы, а проста на яго.

Паляўнічы выстраліў. Куля слізганула па моцным чэрапе звера і пайшла ў бок. Ашалелы ад моцнага ўдару ў лоб, звер збіў паляўнічага з ног і падабраў пад сябе.

Дарэмна сабакі кусалі звера, павісалі на ім. Дарэмна перапалоханы ляснік крычаў і размахваў стрэльбаю — страляць яму нельга было: куля магла трапіць у паляўнічага.

Адным махам страшнай лапы мядзведзь згроб шапку паляўнічага разам з валасамі і скурай. Але раптам пасля гэтага ён кульнуўся вобземлю, зароў і пачаў качацца.

Паляўнічы, як выявілася, не струсіў: ён паспеў дастаць кінжал і распароў зверу жывот.

Паляўнічы застаўся жывы. Але на галаве ён заўсёды цяпер носіць цёплую шапку.

В. БІАНКІ.



ЦАНА 30 КАП.



# Цяжкі гусь і здагадлівая дзяўчынка





Тут намаляваны дзве зусім розныя фігуры: звычайная палоска і зорка. Разрэжце палоску на 4 часткі так, каб з іх можна было скласці зорку. (Палоску такой-жа формы выражце з паперы). Адказ на гэтую задачу будзе надрукаваны ў наступным нумары.

Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ — Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА

Друкарня ім. Сталіна — 20.000 экз. — Заказ № 228. — Уп. Галоўлітбела № Б—1699.